© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Новыя вершы

## Жэшаўскі эцюд

*Збігневу Даміна*

*Харошаю неспадзяванкай*
*Стаў Жэшаў для госці адной!*
*У горадзе пахне румянкай,*
*у горадзе пахне вясной.*
*Над гмахамі ветрык лятае,*
*і ясны ў прахожых пагляд.*
*І сябар натхнёна чытае*
*пра польскі — пра дзедаўскі сад...*
*Гучаць сарамлівыя строфы*
*душэўнае песні тае.*
*І сэрца, што ціхла патроху,*
*само у адказ ім пяе.*
*Пяе, што у свеце няпростым*
*нямала такіх гарадоў,*
*дзе пахне дымком і бяростай,*
*а шумна ад рупных гудкоў...*
*Іх толькі патрэбна узводзіць —*
*пры морах, пры новай шашы.*
*Іх толькі патрэбна знаходзіць*
*на карце ўдзячнай душы...*

**Еўдакія Лось**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 38 (1021) ГОД XX 21 ВЕРАСНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


НА СТАР. 2: МЭТА — БУДОВА РАЗВІТАГА САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА

## Солтыс



Часта можна пачуць, што солтыса называюць гаспадаром вёскі, або начальнікам вёскі. А гэта таму, што солтыс адстойвае і ў гміне і ў іншых установах інтарэсы сваёй вёскі. Ён склікае сходы, на якіх разам з сваімі аднавяскоўцамі абмяркоўвае і вырашае хвалюючыя справы свайго асяроддзя.

Мікалай Хлябіч з Рыбакоў (гміна Шымкі) ужо 16 гадоў з'яўляецца солтысам. Яго салэцтва складаецца з 3 вёсак: Бандароў, Гарбароў і Рыбакоў. За перыяд яго працы зроблена многа карыснага, неабходнага. Грамадская праца пачалася там ад рамонту дарог. І так былі зроблены жвіроўкі ад Рыбакоў да Бандароў, пасля ад Рыбакоў да Болтрыкаў і затым да Рудні. Грамадская, карысная праца для свайго асяроддзя гуртавала людзей. Ва ўзгодненыя дні і гадзіны з кожнай хаты на калектыўную работу выходзілі людзі.

У Рыбаках была вельмі цесная школа. Дзеці сялян гэтага салэцтва не мелі адпаведных умоў для вучобы. І тут зноў солтыс Мікалай Хлябіч з грамадскім актывам ставіў на вясковым сходзе справу павелічэння школьнага памяшкання. Прапановы былі падтрыманы. Пабудавалі два класы, канцылярыю і калідор. Шмат тысяч злотых складала грамадская праца. І зноў вялікае задавальненне ў вёсцы.

У школе стала прасторна, але настаўнікі далей цясніліся ў сялянскіх хатах. І тады нарадзілася новая думка — грамадскім чынам пабудаваць жылы будынак для настаўнікаў. Тут зноў патрэбна была роля солтыса і грамадскага актыву як арганізатараў. Не так проста мабілізаваць сялян на грамадскую працу, калі тыя маюць поўна работы на сваіх гаспадарках. У больш свабодныя дні і нядзелі замест адпачынку яны ішлі на грамадскі чын. Зрабілі адно — пачыналі другое, і так увесь час.

Калі пабудавалі памяшканне для настаўнікаў, пачалі будаваць гандлёвы павільён. Пасля чарговага вясковага сходу пачалася цяжкая праца, і хутка павільён 30 метраў даўжыні і 14 метраў шырыні ўжо стаяў у вёсцы. Цяпер кожны селянін можа купіць тут усе тавары першай патрэбы.

— А цяпер вы што будуеце? — запытаў я солтыса.

— Цяпер у нас заканчваюцца работы пры рамізе пажарнай каманды.

Мікалай Хлябіч стаў падрабязна расказваць аб гэтай апошняй будоўлі, да якой дзяржава далажыла шмат грошай, падтрымоўваючы ініцыятыву і грамадскую працу насельніцтва. Затым наш субяседнік расказаў нам аб актывістах з паасобных вёсак. Сказаў ён таксама аб перадавых гаспадарах свайго салэцтва, да якіх у першую чаргу залічаюцца Аляксандр Хлябіч, Мікалай Казбярук, Мікалай Міруць, Хведар Міруць, Уладыслаў Пшылажынскі і іншыя.

(Працяг на стар. 2)



*І. Малчановіч, гарадскі пасёлак Івянец Мінскай вобласці. Зубр (кераміка, глазура).*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Народныя ўмельцы

На адной з выставак народнай творчасці ў Маскве англійская журналістка папрасіла дазволу патрымаць у руках драўляную шкатулку, інкруставаную залацістай саломкай. („Ці не з сінтэтыкі яна?“). І, пераканаўшыся ў аўтэнтычнасці беларускага сувеніра, усклікнула: „Як жа багаты ваш народ!“

Вырабы беларускіх народных умельцаў даўно і трывала заваявалі папулярнасць у многіх краінах свету. Іх бачылі на міжнародных кірмашах і выстаўках ў Монрэалі, Асака, Лейпцыгу, Загрэбе, у Францыі і Злучаных Штатах Амерыкі. Беларускія сувеніры ахвотна купляюць Балгарыя, Венгрыя, ГДР, ФРГ, Канада, Італія, Японія, ЗША, Фінляндыя, Польшча і іншыя краіны.

Ткацтвам Беларусь славіцца здаўна. Ткуць

(Працяг на стар. 2)

## ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО ДЛЯ ГАДОЎЛІ

Справы павелічэння жывёлагадоўлі ў гміне **Дуброва Беластоцкая** знаходзяцца ў цэнтры ўвагі і сялян і мясцовых уладаў.

У зялёнай вёсачцы **Круглае Г. Хадукевіч** коштам каля 400 тысяч злотых нядаўна пабудаваў сучасную механізаваную ферму, у якой аднаразова будзе адкормліваць 80 кормнікаў і гадаваць 8 свінаматак. Яго 20-гектаравая гаспадарка складаецца з 12 га ворыўнай зямлі і 8 га лугоў і пашы. Цяпер ён мае 5 дойных кароў, 8 штук ялаўніку, 4 цялят, 7 свінаматак і, зразумела, шмат парасят. Ужо ў гэтым годзе ён здаў на пункт скупкі 26 кормнікаў і 11 маладых пародзістых свінаматак, а неўзабаве накіруе на продаж дзяржаве 6 або 7 штук удойнага быдла.

— Скажу вам па праўдзе, — заўважае Г. Хадукевіч, — цяпер займацца гадоўляй — гэта ладны грош, добры даход. І спецыялізавацца ў гэтай галіне варта.

Аліцыя і Казімір Манцэвічы з Градзішчанаў — гэта гаспадары поўнай губою. Абое — абсальвенты сельскагаспадарчых школаў, ён — аграном, яна — заатэхнік, закончылі тэхнікум у Даўспудзе. Перанялі гаспадарку па памёршых бацьках. Невялікую, усяго 7,5 га, але 3 га ўзялі ў арэнду. Збудавалі клуню-ферму на 20 штук быдла, усю гаспадарку накіравалі на гадоўлю ялавічыны. У мінулым годзе адправілі па кааперацыйнай умове з ПГР-ам у Макаўлянах 14 штук маладога быдла агульнай вагой каля 5 тон. У бягучым годзе кааперуюць з СКР-ам у Дуброве. Ужо адправілі 5 штук агульнай вагой у 1870 кг, а недзе ў студзені будучага года намерваюцца прадаць наступныя 10 штук.

— Я там са свіньмі не люблю пэцкацца, — прызнаецца К. Манцэвіч. — Быдла — гэта іншая справа. Вось ужо маю якіх 30 тон квашанкі, а з 2,30 га кукурузы нарыхтую яшчэ тон 70-80. Зямля ў нас слабая, але лугі даволі добрыя. Значыць, гадоўля нам найбольш адпаведны занятак. Свой статак хачу давесці да 30 штук ялаўніку ў год.

— Э-э! Пане, цяпер на гаспадарцы

(Працяг на стар. 4)



*— Цяпер на гаспадарцы адно толькі і жыць! — усклікае Чэслаў Гайкоўскі.*


ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

Руно — амаль залатое ● На новым этапе дзейнасці БНТ ● Саколка ● Мастацкі музей у Мінску ● Колькі каштуе прэзідэнт? ● Тры тэзісы А. Бергман ● Дзень ветлівасці ● Дажынкі ў Кожыне і Боцьках ● Весткі з Нараўкі, Бельска, Міклашоў, Паўднёвага Вострава, Райска, Крынак, Гарадка, Кнаразоў, Гайнаўкі, Рудутаў ● Кажуць, што... (новая рубрыка) ● Калі прысніцца дачка ● Песня „H'asta maniana”.


© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# МЭТА—БУДОВА РАЗВІТАГА сацыялістычнага грамадства

Галоўнай ідэяй праграмы, якую мы прадстаўляем перад VII З'ездам партыі і народу, з'яўляецца будова ў Польшчы развітага сацыялістычнага грамадства. Шырэй выкажацца ў гэтай справе З'езд партыі. Гэта комплекснае заданне. Вымагае яно далейшага прагрэсу і дасягнення вышэйшага ўзроўню ва ўсіх галінах, у развіцці прадукцыйных сіл, у паляпшэнні ўмоў жыцця, у паглыбленні і пашырэнні сацыялістычных грамадскіх адносін і сацыялістычнай грамадскай свядомасці, ва ўмацоўванні дзяржавы і ўдасканальванні сацыялістычнай дэмакратыі.

Маторам далейшага развіцця ўсіх прагрэсіўных працэсаў ў польскім грамадстве, цэласці сацыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца наша партыя.

Рэалізуючы зацверджаную VI З'ездам стратэгію грамадска-гаспадарчага развіцця, у першую чаргу дзякуючы гэтай стратэгіі, умацавала яна свае вузы з рабочым класам, з сялянамі і інтэлігенцыяй, з усімі людзьмі працы. Паглыбілася яе ідэйнае і палітычнае адзінства. Умацавалася ў арганізацыйных адносінах. Дзякуючы ўсяму гэтаму, дзякуючы вернасці марксізму-ленінізму і пралетарскаму інтэрнацыяналізму, больш паспяхова выконвае яна сваю кіруючую ролю ў жыцці і працы народу.

Генеральная мэта, намечаная ў праекце Дырэктыў на VII З'езд — будова развітага сацыялістычнага грамадства, ставіць перад нашай партыяй новыя, надзвычай важныя задачы. Сёння ў час дыскусіі многа разоў падкрэслівалася неабходнасць павышэння ўсёй партыяй якасці яе працы. Як трэба разумець гэту слушную прапанову? Думаю, што перш за ўсё як неабходнасць больш спелага аналізу ўсіх галін жыцця, а таксама больш спелай, разумнай, разважнай і паспяховай дзейнасці. Таксама і як вышэйшае пачуццё адказнасці кожнага члена партыі і кожнай яе арганізацыі за ўсе справы свайго адрэзка працы, свайго прадпрыемства, свайго раёна і за справы ўсёй краіны.

Асабліва важнай місіяй нашай партыі, усіх яе членаў, і ўсіх яе арганізацый з'яўляецца фарміраванне грамадскіх поглядаў, умацоўванне грамадзянскай дысцыпліны і патрыятычнага заангажавання, выхаванне чалавека сацыялізму.

Абапіраючыся на праграму, з якой ідзем на VII З'езд, мы павінны яшчэ шырэй разгарнуць ідэйна-выхаваўчую працу ва ўсіх асяроддзях, а перш за ўсё сярод моладзі. Гэта праграма, фармуляваная з думкай аб маладых, спасылаючаяся на іх амбіцыю і актыўнасць.

Грамадска-эканамічныя задачы, якія намячаем ў праекце Дырэктыў, непарыўна звязаны з умацаваннем і паглыбленнем сацыялістычнай дэмакратыі. Разумеем яе шырока, як сапраўднае супрацоўніцтва людзей працы ў кіраванні справамі свайго прадпрыемства, раёна, краіны. Разумеем яе і як права на крытыку і кантроль, як абавязак улічвання грамадскай думкі і адпаведнага рэагіравання на яе. Людзі павінны мець пачуццё, што іх слушныя меркаванні лічацца. Сацыялістычная дэмакратыя з'яўляецца абавязковай умовай сапраўднай дзяржаўнай і грамадскай дысцыпліны, а гэта дысцыпліна з'яўляецца неабходнай умовай дэмакратыі.

Ажыццёўленая ўжо рэформа адміністрацыйнай структуры стварае добрыя ўмовы для далейшага ўмацавання ўсіх звенняў улады і паляпшэння іх штодзённай дзейнасці. Набліжаючы іх да людзей і даючы ім шырокія кампетэнцыі мы будзем патрабаваць, каб яны добрасумленна і паспяхова афармлялі ўсе, асабліва жыццёвыя справы і праблемы грамадзян. Аўтарытэт кожнага звяна — гэта мэтанакіраваная, дакладная гаспадарская дзейнасць у сваім раёне, сярод людзей працы.

Мы задаволены, што ў асноўным менавіта так людзі разумеюць гэта, трэба аднак яшчэ шмат працы, каб менавіта так было ўсюды і штодзень.

*(З прамовы тав. Эдварда Герка на XVIII Пленуме ЦК ПАРП).*



*Адзін з жылых дамоў у сяле Серабранка Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці.*

Пачатак на стар. 1

## Народныя ўмельцы

па-майстэрску тут і сёння, ткачыхі ствараюць узоры, падказаныя ўласнай фантазіяй, а ў традыцыйнае, не прычыняючы яму шкоды, уносяць новае, падыктаванае жыццём.

Вось, напрыклад, ткачыхі з сяла Няглюбка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці праславіліся на ўвесь свет сваімі дзіўнымі ручнікамі. Яшчэ і цяпер на дне старых куфраў захоўваюцца вузкія ручнікі, у якіх узорныя канцы зусім невялікія, а малюнкам не хапае яркасці. Сённяшнія ручнікі не страцілі сваёй народнасці, традыцыйнасці, суровасці, але сталі здзіўляюча красачнымі, святочнымі, а цяжкія ўзорныя канцы напамінаюць то аксаміт, то кілім, то яркія насценныя пано.

Ручнікі з Моталя на Піншчыне не пераблытаеш ні з якімі іншымі. Іх адрознівае ювелірная тонкасць, гарманічнасць, прыгажосць. Толькі і тут час налажыў свой адбітак на працу майстрых. Іх вырабы таксама сталі больш яркімі, узоры больш складанымі. Даўно тут, акрамя традыцыйных чырвонага і чорнага колераў, ужываюць жоўты, зялёны, сіні, удала кампануючы іх у геаметрычным і раслінным арнаментах.

І не толькі ручнікі ткуць у Беларусі. Не знойдзеш, бадай, вёскі, дзе б не ткалі пасцілкі. Яны вельмі разнастайныя, імі можна любавацца як карцінамі, як творамі мастацтва, так гарманічна спалучаюцца тут колеры і малюнкі. Славіцца сваімі пасцілкамі і дыванамі вёска Заляны на Гродзеншчыне, быццам карункавыя, з серабрыстымі пераліваамі чорна-белыя — пасцілкі з Віцебшчыны.

Ганчарныя вырабы першых сялянскіх пасяленняў на Прыпяці здзіўляюча блізкія сучасным. Стаў толькі больш тонкім сілуэт, узбагаціўся дэкор, палівы. Аднак, керамічным вырабам Антона Такарэўскага, Уладзіміра Татарыса, Афанасія Траякоўскага, Івана Малчановіча і іншых уласцівы традыцыйныя, выпрацаваныя вякамі формы, тэхналогія, арнаменты. У жанры малой ганчарнай скульптуры працуе Міхаіл Пушкар з Мозыра. Ганчарную цацку робіць Анна Марачова з Дуброўна.

Вельмі папулярнымі сталі вырабы з залацістай саломкі. Цяпер у Жлобіне працуе вялікая фабрыка мастацкай інкрустацыі. Яна адзіная ў Савецкім Саюзе, і драўляныя шкатулкі, куфры, пано, інкруставаныя фарбаванай і розных адценняў натуральнай ржаной саломкай, карыстаюцца вялікім попытам у Савецкай краіне, з поспехам экспанаваліся яны на міжнародных выстаўках.

Сучасныя майстры ўбачылі ў саломе новыя пластычныя магчымасці для стварэння сапраўды вобразных народных вырабаў. Мадэллю для іх быў і навакольны жывёльны свет, і вобразы адышоўшага ў мінулае сялянскага быту, і персанажы народных казак, і нават наш сённяшні дзень. Кацярына Арцёменка з Магілёва і Вера Гаўрылюк з Брэста ствараюць цудоўныя сувеніры з саломкі. Яны добра знаёмы з жыццём народа, яго абрадамі і звычаямі, і таму іх вырабы так многа гавораць і такія прыгожыя.

Многа ў Беларусі разьбяроў па дрэву. П. Гуткоўскі, А. Пупко, В. Альшэўскі, А. Міхеенка, А. Сакажынскі. У кожнага з іх свая манера, свая любімая тэма. В. Альшэўскі, напрыклад, абточвае дрэва так, што яно становіцца падобным на косць. Тэматыка яго твораў: звяры нашых лясоў, звяры — персанажы баек і казак. У А. Міхеенкі фігуры быццам высечаныя.

Шырока распаўсюджана ў рэспубліцы мастацкае афармленне сялянскіх хат. Яно ажыццяўляецца шляхам апрацоўкі знешніх архітэктурных дэталяў (франтона, канька на даху, карніза, налічнікаў, вуглоў). У разьбе гэтых дэталяў праявілася багацце фантазіі, тонкі густ і высокае майстэрства народных разьбяроў, часта невядомых, але бессмяротных у сваіх творах.

**Дзіяна Чаркасава**

Пачатак на стар. 1




М. Хлябіч залічаецца не толькі да перадавых солтысаў, ён актыўны член мясцовай партыйнай арганізацыі. На працягу 8 гадоў быў ён сакратаром партарганізацыі. Цяпер ён з'яўляецца членам сельскагаспадарчай камісіі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, членам прэзідыума беластоцкага паявятовага праўлення БГКТ, старшынёю гуртка БГКТ у сваёй мясцовасці. Менавіта гэты гурток Беларускага таварыства заўсёды з'яўляецца арганізатарам традыцыйнага фэстына БГКТ, які адбываецца ў першую нядзелю ліпеня. Фэстын заўсёды праходзіць на высокім узроўні.

М. Хлябічу ужо 41 год. З'яўляецца ён добрым гаспадаром. Згодна жыве з сваёй жонкай Зінай, родам яна з Кабылянкі. Дзеці ў яго ў школьным узросце. У гэтым жа самым будынку жыве яго бацька і маці. Бацька — заслужаны партыйны пенсіянер. Родны брат яго Лявон жыве і працуе будаўнічым тэхнікам у Варшаве. Усім жывецца добра, усе задаволены з жыцця і працы.

**М. Хмялеўскі**




**Sobota — 20.IX.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Bot. 10.00 Pr. dla najmłod. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.35 Pr. I prop. 15.55 Red. Szk. Zap. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dzien. 16.20 Obiektyw. 16.40 Studio przebojów. 17.25 Sobota mł. 18.25 Pol. skrzydła — teletur. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Złoty kask — film fab. fr. 21.55 Sport. 22.15 Pr. rozr. 23.00 Dzien.

**Niedziela — 21.IX.** 6.15 Tech. Rol. J. pol. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp. radz. 8.00 Alarm przeciw-poż. trwa. 8.10 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 W Starym Kinie. 12.00 Lekt. Pegaza. 12.20 Dzien. 12.40 Tydzień. 13.10 Piór. i węglem. 13.35 Dla dzieci. 14.05 Bank Miast — Goleniów — Żagań. 15.15 Niezapomniane melodie. 15.50 Los. Toto-Lot. 16.05 Słuchamy Chopina. 16.15 Refl. ob. 16.30 Sport. 18.00 Bank Miast. 18.10 L. Kydryński przedstawia — Liza Minelli. 19.10 Bank Miast. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Dobr. dla dor. 20.30 Świat się śmieje — film fab. radz. 22.00 Bank Miast. 22.45 Sport.

**Poniedziałek — 22.IX.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Zoolog. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 ZWIERZYNIEC. 17.45 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film ser. radz. 18.55 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV. Antoni Czechow, Oświadczyny i Jubileusz. 21.20 Polska Konto — 75. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 22.40 Rec. pios. H. Vondraczkowej.

**Wtorek — 23.IX.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Zool. 7.30 Świat się śmieje — film fab. radz. 9.00 Dla szkół: J. pol. kl. I lic. 10.00 Pr. dla najmł. 12.55 Pr. dla szk. śred. Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Na wielkim i mał. ekr. 18.00 Stud. Mł. 18.50 Fakty, op., hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Bracia Lautensack — odc. II filmu ser. NRD. 21.15 Interstud. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 22.40 Tor wolny.

**Środa — 24.IX.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 9.00 Bracia Lautensack — film ser. NRD. 10.00 Dla szkół: Hist. kl. V. 10.05 Fiz. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.05 Dla dzieci. 17.35 Los. Mał. Lot. 17.45 Inf., tow., prop. 17.55 Poligon. 18.15 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Małżeństwo niedoskonałe — film fab. nor. 21.35 Sonaty fort. Chopina gra R. Smendzianka. 22.00 Dzien. 22.20 Sport.

**Czwartek — 25.IX.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 8.00 Kurs Inf. 9.00 Małżeństwo niedoskonałe — film fab. nor. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Brat. 18.05 Spotkania w drodze. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Złoto Londynu — film fab. wł. 21.55 Pegaz. 22.40 Sport.

**Piątek — 26.IX.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 8.00 Złoto Londynu — film fab. wł. 10.00 Dla szkół: Geogr. kl. VI. 11.05 Wych. ob. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Bot. 15.55 NURT. 16.20 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Giełda report. 18.05 Inf. Wyd. 18.20 Mała Encykl. Zwierz. 18.55 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Mój program — przedst. T. Fijewski. 21.40 Panorama. 22.25 Gospodarność i ja. 22.40 Dzien. 22.55 Inf., tow., prop. 23.05 Sport. 23.15 Buffa contra seria — pr. muz. 23.40 Nagle zeszłego lata — film fab. USA.




**Piątek 19.IX** — 7.30 Koncert. 8.00 Film fab. 9.15 Koncert. 13.20 Koncert ork. dętej. 14.10 Film fab. 17.30 Hokej. Spartak — CSKA. 20.05 Podnoszenie ciężarów. Mistrz. świata i Europy.

**Sobota 20.IX** — 8.00 Film fab. 13.00 Sport. 15.30 Film dok. 16.15 W świecie zwierz. 17.15 Koncert Ł. Zykinej. 18.10 Spektakl. 19.30 Panorama film. 21.30 Sport.

**Niedziela 21.IX** — 11.30 Film fab. 13.20 Koncert. 14.00 Sport. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.15 Film fab. 19.30 Film dok. 20.30 Sport.




**Białowieża** Pies za burtą — radz. 23—24. Prywatny detektyw — ang. 25—26. Pigmalion XII — NRD 27—28.

**Czeremcha** Goście — USA 23—24. Godzina za godziną — pol. 27—28.

**Dubicze Cerkiewne** Szach królowej brylantów — radz. Wspaniały interes — fr. 24—28.

**Gródek** Pies za burtą — radz. 27—28.

**Kleszczele** Na rabunek — czes. 23—24. Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 25—26. Kartka z młodzieńczych lat — radz. 27—28.

**Michałowo** Syn godzili — jap. 23—24. Bezbronne nagietki — USA 25—26. Śmierć wybiera — czes. 27—28.

**Narew** Bezdomny — buł. Hrabina Cosel — pol. 24—28.

**Narewka** Helga — NRD. Osobliwa miłość — fr. 24—28.

**Nurzec** Hasło — pol. 23—24. Gra złudzeń — fr. 25—26. Awans — pol. 27—28.

**Orla** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — pol. 24—28.

**Suchowola** Ziemia obiecana — pol. Uciekaj i daj się złapać — węg. 24—28.

B.Z.Graf. Zam. 2227. P-1.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ІМЯ Аляксандра Вянгеркі

Дзяржаўны драматычны тэатр у Беластоку, як вядома, носіць імя **Аляксандра Вянгеркі.**

Кім быў гэты чалавек? Чым ён заслужыўся Беластоцкаму тэатру?

Аляксандр Вянгерка нарадзіўся і выхаваўся ў тыповай мяшчанскай варшаўскай сям'і. Яго бацька працаваў на пасадзе галоўнага агародніка на адным з варшаўскіх могільнікаў. Тэатральную кар'еру распачаў ён у 1912 годзе ў Вільне. Было яму тады 19 гадоў. Натура шчодра абдарыла яго выключнымі здольнасцямі. Без спецыяльнай школы і без практычнай падрыхтоўкі ён хутка заваяваў сэрцы віленскай тэатральнай публікі, што яму адкрыла дарогу на варшаўскую сцэну. У Варшаве Аляксандр Вянгерка знаходзіўся аж да II сусветнай вайны. Выступаў таксама і ў Кракаве. За гэты час апрацаваў амаль 60 розных сцэнічных роляў. Быў рэжысёрам і пастаноўшчыкам, заваяваў славу выдатнага таленавітага акцёра.

Калі гітлераўцы занялі Варшаву, Аляксандр Вянгерка праз „зялёную граніцу“ прабіраецца туды, дзе яшчэ дзейнічаюць польскія тэатры. Найперш трапляе ў Вільна і Львоў, а затым пераязджае ў Гродна. Мясцовыя савецкія ўлады давяраюць яму мастацкае кіраўніцтва Гродзенскім тэатрам. Вестка, што Аляксандр Вянгерка пасяліўся ў Гродна, хутка разнеслася па ўсёй Заходняй Беларусі. Да яго едуць вядомыя варшаўскія акцёры: **Ірэна Бароўская, Яцэк Вашчаровіч, Ежы Славінскі** і шмат іншых. Сцэнографам гэтага тэатра быў сённяшні вядомы польскі фільмовы рэжысёр **Ян Рыбкоўскі.**

Праца была нялёгкай. У гэты ваенны час шмат чаго не хапала для нармальнай дзейнасці тэатра. За касцюмамі, напрыклад, Ян Рыбкоўскі адпраўляўся аж у Львоў.

У Беластоку ў той час стаяў новы, пабудаваны незадоўга да вайны, прасторны тэатральны гмах. Дык улады адобрылі прапанову гродзенскага тэатральнага калектыву, каб перабрацца ў Беласток. У Беластоку тэатр надалей астаецца пад дзяржаўнай апекай і атрымоўвае афіцыйную назву: **„Дзяржаўны Польскі тэатр БССР“.** А. Вянгерка афіцыйна з'яўляецца яго мастацкім кіраўніком. Аднак цэлы калектыў тэатра лічыў яго сваім галоўным шэфам і апекуном. Аўтар манаграфіі аб Аляксандру Вянгерку Яблонкуўна піша, што жыў ён як і іншыя акцёры, сталаваўся ў супольнай тэатральнай сталоўцы, хадзіў у адным і тым жа, яшчэ варшаўскім, моцна ўжо выцертым пальто, якое падвязваў дзягай, каб было цяплей.

У гэтых умовах А. Вянгерка стварыў сапраўдны ідэйны і народны тэатр. Ён сам пісаў тады, што ў тэатры ён шукае перш за ўсё рамантызму, аснову якога стварылі Міцкевіч, Славацкі, Красінскі, а затым Выспянскі. Гэта яны перш за ўсё паказвалі чалавека, які змагаецца і пакутуе за шчасце другіх.

Калектыў Беластоцкага тэатра паказаў найперш *„Каварства і каханне“* Фрыдрыха Шылера. Затым былі п'есы Шэкспіра, Фрэдры і Запольскай, паэзія Міцкевіча, Славацкага, Норвіда, Выспянскага і ўрэшце найвышэйшае дасягненне А. Вянгеркі ў Беластоку — пастаноўка *„Аптымістычнай трагедыі“* Усевалада Вішнеўскага.

Тэатр заваяваў сэрцы жыхароў Беластока. За білетамі на яго спектаклі трэба было доўга чакаць у чарзе. Дае ён таксама спектаклі ў іншых гарадах і на прадпрыемствах Беластоцкай вобласці. Яго пастаноўкі перадаюць па радыё.

Летам 1941 года Беластоцкі тэатр запрашаюць на гастролі ў сталіцу БССР. І там ён таксама карыстаецца вялікім поспехам.

А. Вянгерку прапануюць працу ў вядомых маскоўскіх тэатрах. Ён, аднак, не прымае гэтай заманлівай прапановы. Не хоча расставацца са сваім калектывам.

У чэрвені 1941 г. гітлераўцы збамбілі Мінск. Загарэўся тэатр, у якім выступалі акцёры з Беластока. Згарэла цэлая

**(Працяг на стар. 4)**



*Аляксандр Вянгерка, імя якога прысвоена Беластоцкаму тэатру.*

# З-ЗА ПЛОТУ ▶ Дзівосныя птушкі ў Мокрым

Ічаго на свеце не бывае! Адны цуды дзеюцца. Амерыканцы — на Месяцы дзялянкі прадаюць, на Камчатцы — вулканы новыя родзяцца, а ў нас — птушкі дзіўныя паявіліся. Па характару да зязюлі падобныя, па прафесіі — да сарокі. Без крылаў, без хваста, адно толькі пер'е на галаве стрыміць ды жывоцік уперад выпінаецца. А лапкі такія крывенькія-крывенькія ды яшчэ ў боцікаx бліскучанькіх. Адным словам — дзівоснае стварэнне. Ды і назва якаясьці неспатыканая — агенты, агенцікі. І прылятаюць любой парой года.

Гады два таму назад адзін такі агенцік, штосьці ўжо па трыццатцы ды з візітнай картачкай варшаўскай прыватнай фірмы „Маляванне на тканінах“, у Мокрае заглянуў. Пахадзіў, паглядзеў ды і давай прымацца за работу, гэта значыць, заказы на кілімы падпісваць. Каго-каго, а жанчын у вёсцы, у гэтым выпадку, ашукаць лёгка. Такія рэчы — гэта ў іх самае слабое месца. Як жа не мець прыгожага малявана-га кіліма, калі ў суседкі ёсць? А тут такая аказія нараджаецца. Проста шчасце само ў рукі прыходзіць. А недаверлівасць? Былі і такія. Аднак гэты агенцік не лыкам шыты.

— Не верыце? Глядзіце, запісвайце, — соваў пад нос свой птушыны пашпарт.

— Ды дзе ж такому верыць не будзеш, калі ўжо ён пашпарт паказвае ды апрача таго і пячатка на квіточку стаіць? Не павінен ашукаць, — думалі жанчыны.

А агенцік не траціў часу. Падпісваў заказы ды клаў задатак у кішэню. Браў як хацеў. Ад адных — па 200 зл., ад другіх — па 300 зл. Гэта залежала, які хто кілім захацеў мець: ці за 700 зл. — ці за 900 зл.

— Па 900 прыгажэйшы, — паказваў на скрутак на руцэ.

Хітрая гэта птушка, сябе не пакрыўдзіць. Заказы пісаў толькі ў адным экземпляры, а адрасы заказчыкаў, каб тыя не падазравалі, запісваў, на ўсякі выпадак, у простым сшытку. Ашчаджаў як мог. Усё ж такі палавіна квіткоў застанецца! Колькі яшчэ разоў можна ў вырай злётаць і колькі жанчын кругом пальца абвесці!

Зрабіўшы сваё, знік так, як і паявіўся. А шэсць макранскіх жанчын цешыліся, што неўзабаве новы прыбытак будзе ўпрыгожваць сцяну іх вясковай хаты. Чакалі паўгода, год, а агента ўсё як не было, так не было. Тут ужо і баяцца пачалі. Усё-такі 300 зл. пехатой не ходзяць. І давай пісаць у Варшаву. Адказ, які атрымалі ад кіраўніка фірмы „Эвы Карпінскай“ амаль дарэшты выбіў з іх надзею.

— У мяне такі ўжо не працуе і ніякіх заказаў я не атрымала. Даю вам яго адрас і падавайце, калі хочаце, у суд, — напісала яна.

Ды што ж тут могуць зрабіць жанчыны, калі фірма не дбае пра свой гонар. Яна ж лепш яго знае. Ды можа ўжо б і падалі, але прыход вінавайцы на месца злачынства так іх напалохаў, што і пра выгляд яго забылі.

— Падай вазьмі на такога франціка ў суд, то яшчэ чаго добрага прыедзе і запалку пад страху суне. Хопіць, што ён мяне ў маёй хаце перапалохаў да смерці, калі другі раз з сваім калежкаю прыехаў, — гаворыць Т.Т.

І так чакаюць жанчыны, злажыўшы рукі, калі прыляціць гэты агенцік ды прывязе іх кілімы. Можа такі ўкусіць яго сумленне, што ашукаў простых сялянскіх жанчын. Калі толькі пакажацца нехта чужы ў вёсцы, адразу мільгане ў галаве думка: „А можа гэта з нашымі кілімамі“. Нават нас, калі мы паехалі паглядзець на сляды гэтай дзіўнай птушкі, пачалі падазраваць. І нічога ў тым дзіўнага, кожны так бы паступіў, каб яго ашукалі.

Вось што гэта за птушкі. Час бы іх ужо палавіць ды ў спецыяльны заапарк пасадзіць за тое, што яны такое спусташэнне на вёску наносяць. А пакуль што, калі вас яшчэ не паспелі ашукаць, пазбягайце як можаце розных кантактаў з імі. У крамах ёсць поўна розных кілімаў, ды намнога прыгажэйшых і таннейшых.

**М. Шаховіч**





**ТАПІЛА**

Ці ведаеце вы Белавежскую пушчу? Гляньце: невялічкая пушчанская рачулка Перабель разлілася тут у шырачэзную раку, а ў яе затонах — рай дзікім качкам, кулікам, чаплям, гусям.

А вось тут, у глыбокай тоні запруджанай Перабелі перахоўваюцца ўсё лета ад пражэрлівых караедаў тысячы бярвенняў высакаякаснага дрэва, што адсюль увесь час вандруе вузкакалейкай на Гайнаўскае прадпрыемства перапрацоўкі драўніны. І што потым? У руках працавітых гайнаўскіх драўніннікаў яны ператворацца і будуць красавацца ў вашым пакоі прыгожай шафай, бібліятэкай, сталом або модным гарнітурам „Пушча“. (іс)

# БЕЛАРУСІЯНА

## Паклон Адамскага Палессю

Літаратурнае выдавецтва выпусціла кніжку акцёра тэатра імя Ю. Славацкага ў Кракаве Яна Адамскага **„Наведванне“** (Одведзіны). Гэта поўныя лірызму апавяданні-ўспаміны часоў дзяцінства і маладосці, праведзеных ім у былой Заходняй Беларусі і ў былой Заходняй Украіне.

Беларускіх апавяданняў у гэтай кніжцы ўсяго чатыры. Рэшта, звыш дваццаці, прысвечана ўкраінскай тэматыцы.

Асабліва застаюцца ў памяці апісаныя ім сцэны жыцця ў даваенным Пінску, апавяданні **„Удава Камень і яе крама“** і **„Сусед Залман Хатыніцкі“**. У іх Адамскі паказаў сябе майстрам у назіранні дробненькага побыту дробненькіх людзей з дробненькімі праблемікамі. Аднак жа не быў бы ён яшчэ мастаком слова і, мабыць, не зацікавілася б ягонай творчасцю сур'ёзнае літаратурнае выдавецтва, калі б не адчуваў глыбіні гэтай драбнаты ды не прыдаў ёй універсальнасці, сусветнасці.

Літаратура пачынаецца там, дзе трапнае слова не толькі дакладна называе, але і падказвае або адкрывае новае ў чалавеку. Гэтае сцвярджэнне можна аднесці да апавяданняў Яна Адамскага.

Сваёй настраёвасцю ў нейкай меры нагадваюць адэскія апавяданні Бабеля. Нагадваюць — і не болей. Адамскі, вядома, не настолькі складаны, шматпакладавы, а месцамі нават — публіцыстычны. У праблематыцы.

Чытаючы ягоныя лірычна сумныя замалёўкі або эпізоды, больш думаеш аб мастацтве, чым аб літаратуры, аб графічных штрыхах Віктара Зіна або нашага, беластоцкага, Генрыка Вілька. Бачыш даўні Пінск з яўрэйскімі завулкамі, Глінішча, склады фірмы „Зэлік Даўтапяты і сыны“, набрыняўшыя садзікі, аселыя будынiны, вуліцы, ля якіх жывуць яўрэі, рускія, палякі і часамі беларусы. Ля Рамеснай. Адчуваеш іхнія, крыху баладныя, беды ды няшчасці...

Цэнтр Пінска гучыць рэпрадуктарнай мовай трывожнага верасня 1939 года. Горад запоўнены мабілізаванымі на вайну палешукамі: — *На гэрманца! Дайтіе нам довгіе штыкі.*

Адамскі пачынае сваю кніжку:

*Дачушка! Зямля, на якой давялося мне быць маладым, з'яўляецца плоскай ды раўніннай. Увесну, калі па ёй разальюцца воды, падобная яна да мора. Усюды, куды не кінь вокам, блакітніста і годна зліваецца яна ў адно з небакраем. Дзе-недзе лагодна зашуміць сцяблінка аеру, што мужна выстаяў у разводдзі. Санліва пахіліліся чароты і па водным бяскраі толькі ніцііца нясмелымі згібамі тоненькая гаць. Узіму ж сумаваў на ёй званок пад дугою беларускіх саней. Белыя воблакі гналіся па небе малінавымі купаламі гігантычных святыняў. На ўскраінах драўляных пасёлкаў, што выраcталі з разліваў, панад шэрасцю збедаваных хацінаў струнка шыбавалі ў неба таполі, насустрач буслам. Па рацэ борзда шмыгала, выкаланая з дубовага пня, доўбанка. Залаціўся, бы вялізны грыб, саламяны капялюх перавозчыка. З-за прахіленых варотцаў цвінтарнай цэркаўкі выбліcквала пачарнелае золата пратэсаў і сінела адзенне засмучоных святых на іканастасе. А на могліцкім пясчаным кургане высока вырастаў распапярэчаны праваслаўны крыж. На ім шургацелі, надутыя ветрам, ільняныя ручнікі. Ён шырока раскрыжоўваўся, паімшэлы над гэтай прасторнай зямлёю, маўклівою, годна заселенай па наказу прыроды — рыбамі, балотным птацтвам і чаротамі. І толькі ўвосень, калі чалавечая клапатлівасць спальвала травы на попел, неабдымнае кола небакраю патанала ў смугах барвова-чорнага дыму. Доўгія, белыя языкі полымя раптоўна лізалі неба і, ахопленая стыхіяй, зямля як бы казала: „А што, не заўжды я спакойная. Змагу быць і пагрозлівай, бойцеся мяне!“*

**Сакрат Яновіч**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# КАБ ІМ НОГІ ПАЛАМАЛА!

Жанчына сказала:

— Робяць!? Як кот на запечку! Каб ім ногі паламала за такую работу!

Я разумеў яе гнеў і сам пасылаў (праўда, толькі паціху) сакавітую вязанку ў адрас кляшчэлеўскага ПОМ-у, які цяпер перамяніў сваю назву на прадпрыемства абслугоўвання сельскай гаспадаркі.

У чым тады справа?

Найлепш пачнем па чарзе. Быў я ў сядзібе Гайнаўскай гміны. Ян Харытанюк — інжынер-заатэхнік — расказваў мне пра сельскагаспадарчыя справы гэтай гміны.

Ганарыўся ён, што ў вёсках Гайнаўскай гміны наглядаецца павышанае зацікаўленне жывёлагадоўляй.

І тады ў кабінет Яна Харытанюка зайшоў яго супрацоўнік Хведар Бартнічук, які ў праўленні Гайнаўскай гміны вядзе справы сялянскага будаўніцтва.

— Паглядзі, — звярнуўся ён да свайго начальніка, падсоўваючы яму нейкую паперку, — ці так можа быць? Гэта ў справе Мікалая Галёнкі з Пасечнікаў Вялікіх.

— Ох, напсаваў нам ужо крыві ПОМ у Кляшчэлях! — нечакана ўспыхнуў Ян Харытанюк. Вось малады, выдатны гаспадар пераняў ад бацькі калёнію, хоча гаспадарыць па-сучаснаму, разводзіць малочных кароў, пабудаваў сабе прасторную абору, а тут гэты ПОМ разводзіць нам антыпрапаганду.

— У адных толькі Пасечніках Вялікіх, — дадаў Хведар Бартнічук, — аж чацвёра сялян ужо рашыліся будаваць для сваіх красуль падобныя аборы, як у Галёнкі. Аднак калі паглядзелі, як да яго адносіцца кляшчэлеўскі ПОМ, адразу адышла ў іх ахвота на гаспадарчыя будынкі з поўнай механізацыяй.

Аказваецца, што Мікалай Галёнка — малады гаспадар з Пасечнікаў Вялікіх — дагаварыўся быў з кляшчэлеўскім ПОМ-ам, што гэты ПОМ выканае ў яго новым кароўніку ўсе ўнутраныя абсталяванні і поўны камплект для так званай малой механізацыі, разам з падключэннем электрычнай даілкі і складу на малако з паніжанай тэмпературай. Словам, усё было запланавана паводле апошняга слова тэхнікі ў сельскагаспадарчым будаўніцтве. **Адпаведную ўмову гаспадар падпісаў з ПОМ-ам год таму назад — 21 верасня 1974 г. Гаспадар абавязаўся заплаціць 120 тыс. зл., а ПОМ — выканаць усё неабходнае да снежня мінулага года. Значыць, на працягу не больш чым 2-3 месяцаў.**

— Ад гэтага часу, — абураецца, і зусім слушна, будаўнічы рэферэнт Бартнічук, — Галёнка ўжо шэсць разоў наведваў ПОМ у Кляшчэлях.

— І да нас прыходзіў са скаргай, — дадаў Ян Харытанюк. — Аднак, што мы можам? Кляшчэлі знаходзяцца за межамі нашай гміны і мы для іх не ўлада. 15 лютага г.г. накіравалі мы да іх пісьмо з просьбай, каб захацелі ўзяць пад увагу неадкладныя патрэбы нашага селяніна, які — згодна з палітыкай партыі і ўрада — хоча разводзіць жывёлу. А іх жа не прасіць трэба, а лупцаваць. Сёння зноў высылаем ім паперку.

Паехаў я ў Пасечнікі, каб уласнымі вачыма, як кажуць, пераканацца, як справа стаіць, ці ляжыць.

Калёнія Хведара і яго сына Мікалая Галёнкаў выглядае здалёк, як зялёны астравок сярод чыстага поля. З агарода разносіўся пах спелых яблык і груш. Дом прасторны, драўляны, усе гаспадарчыя будынкі новыя, салідныя, пад чарапіцай, аж прыемна паглядзець. Адразу відаць, што жыве тут добры, дбайны гаспадар. Вось і гэтая абора, за якую ідзе змаганне з кляшчэлеўскім ПОМ-ам. Сапраўды, яна аграмадная, як у нейкім ПГР-ы, аднак яшчэ не закончана. Унутры тырчаць нейкія жалезныя трубы і незамацаваныя адсекі для кароў.

Хведара і Мікалая Галёнкаў, на жаль, няма дома, яны паехалі за сенам. Цётка Насця кажа:

— Гэта нашаму сыну захацелася бяды на сваю галаў. Цяпер дапрасіцца не можа, каб ПОМ зрабіў што трэба. Вось якая справа. Але вы гэтага лепш у газету не пішыце, бо яшчэ, чэрці, цалкам на нас разгневаюцца.

**Віктар Рудчык**

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

В ы з в а л е н н е  Б е л а р у с і, 1974, Фотаальбом, цана 31 зл. 30 гр.

У гэтым абшырным выданні чытач знойдзе шматлікія здымкі і фотаграмы, якія прадстаўляюць барацьбу Савецкай Арміі і беларускага народа за вызваленне з-пад улады фашысцкіх захопнікаў у гадах 1941-1944.

**Залескі А. І.,** Д а р о г а м і  п а р т ы з а н с к а й  Б е л а р у с і, 1974, стар.. 256, цана 7 зл. 20 гр.

Кніга аб партызанскай барацьбе на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і ў мясцінах, што знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці з Беласточчынай. Аўтар прыводзіць і выкарыстоўвае шэраг новых матэрыялаў і фактаў.

**Ставер Алесь,** Д а  с в а і х, 1974, стар. 88, цана 1 зл. 10 гр.

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Кароценькая аповесць аб адчайным прарыве цераз фашысцкае акружэнне партызанскага атрада ў ваколіцах Бягомля на Беларусі. Жыва і яскрава напісаны твор.

**Яновіч Сакрат,** З а г о н ы, Беласток 1969, стар. 236, цана 10 зл.

Зборнік прозы беластоцкага беларускага аўтара. У цэнтры ўвагі яго знаходзяцца маральныя і псіхалагічныя канфлікты нашага сучасніка, пражываючага на Беласточчыне. Вартая ўвагі кніга.

**Асіпенка Алесь,** П а р о г і, 1973, стар. 208, цана 4 зл.10 гр.

Зборнік апавяданняў пра звычайных людзей і незвычайныя парогі ў іх жыцці. Падзеі, прадстаўленыя ў апавяданнях, адносяцца да часоў мінулай вайны і спакойных дзён мірнай працы.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### БЫТАВАЯ

Moderato

Ой, по го-рыэ по до- лі- ны
го-лу-бы ліе-та - ют. Шчэй рос-ко-шы нэ за-
жы-ла-ўжэ і ліе - та мі - на - ют, шчэй рос-
ко-шы нэ за-жы-ла-ўжэ і ліе-та мі-на-ют.

*Ой, по горыэ по доліны*
*голубы ліетают.*
*Шчэй і роскошы нэ зажыла —*
*ўжэ і ліета мінают,*
*шчэй і роскошы нэ зажыла —*
*ужэ і ліета мінают.*
*Шчэй і роскошы нэ зажыла,*
*гора нэ забуду.*
*По чуом жэ я свое ліета*
*спомынаты буду?*
*По чуом жэ я свое ліета*
*спомынаты буду?*
*Запрагайтэ, хлопці, коны,*
*коны вороные:*
*поедэмо доганяты*
*ліета молодые,*
*поедэмо доганяты*
*ліета молодые.*
*Ой, догналі ж мое ліета*
*на ліповум мосты:*
*— Вэрніетэся, мое ліета,*
*хоч до мэнэ ў госты,*
*вэрніетэся, мое ліета,*
*хоч до мэнэ у госты.*
*— Ой, рады ж мы вэрнутыся,*
*той нэма до чого —*
*пострадала шчасця і долі,*
*здоров'я своёго,*
*пострадала шчасця і долі,*
*здоров'я своёго.*

Ад Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, і Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.



*Галіна Салтруковіч спрытна замацоўвае капсулі на бутэльках.*

# НОВЫ ЗАВОД У НАРАЎЦЫ

Ужо год нараўчане ўтольваюць смагу прахаладжальнымі напіткамі з уласнага завода, на якім працуе 11 чалавек. Абслугоўваюць яны сучасныя аўтаматычныя машыны, адпаведна размешчаныя і прыстасаваныя да паточнай вытворчасці. Лёскатам матораў і бразганнем шклянай пасудзіны вітае прадукцыйны зал, у які ўводзіць нас кіраўнік Яўген Петраш. Парадак, усюды парадак. Усё мае тут сваю чаргу і ўсё робіцца ў свой час. Працаўніцы пільна сочаць за машынамі, папаўняючы адначасова тое, чаго яны не змогуць зрабіць.

Дзякуючы супрацоўніцтву чалавека і тэхнікі нараўчанскі напіткавытворчы завод можа за дзень выпрадукаваць ад 15 да 18 тыс. бутэлек розных напіткаў.

— Прадукуем тут некалькі гатункаў, а менавіта ліманад, сталовую ваду, мандарынку і апельсінавы напітак, — гаворыць кіраўнік. Апрача гэтага, тут пераліваюць у бутэлькі піва, якое давозіць Беластоцкае піваварскае прадпрыемства „Дайліды".

Завод яшчэ надта малады і таму не паспеў шырока разгарнуць сваёй прадукцыі. Аднак, дзякуючы дружнай працы, плённасць з кожным днём узрастае. Неўзабаве, згодна з інфармацыяй кіраўніка, намераны яны, апрача абслугоўвання ўласнай гміны, высылаць свае прадукты на тэрыторыю ГС у Нарве. Няхай і іншыя паспрабуюць напіткаў з нараўчанскага завода.

**Міхась Шаховіч**

Фота **Я. Цялушэцкага**

*Піва ў бутэлькі разлівае Яўгенія Гарустовіч.*

# Крытыка не дапамагла

Здараецца і так, што гаворыш-гаворыш, а словы — як гарох ад сцяны адскакваюць. Найлепшым прыкладам будзе тут макранская крама. У 31 нумары „Нівы" за 1975 г. было змешчана адносна яе невялічкае крытычнае паведамленне, аўтар якога, як сказала маці прадаўшчыцы, страшэнна іх пакрыўдзіў.

— Усё гэта хлусня. Хтосьці проста свінню падлажыць хацеў. Найлепш прыедзьце і самі праверце, — запрашала яна.

І збыліся словы „хочаш купіць, дык трэба і чакаць". Так, трэба, і нават доўга. Мы, напрыклад, чакалі ад палавіны першай аж да другой. Цэлае шчасце, што напіткі прывезлі, якія трэба было прыняць. Каб не яны, то хто яго ведае, колькі яшчэ часу мусілі б стаяць ля замкнутых дзвярэй ды спаглядаць з надзеяй на вуліцу? Можа і аж да самага вечара, калі пачынаюць ужо збірацца „надзейныя наведвальнікі".

Ды не толькі бяда ў гадзінах, хаця яны і з'яўляюцца той непрарванай балячкай. Ёсць і другія „грашкі", а менавіта — гэта тыя анучы, якія сохнуць на плоце ля ўваходу ў краму і робяць непрыемнае ўражанне, асабліва на тых, якія першы раз краму наведваюць. Пра чысціню дбаць трэба, але ці ж няма для іх другога месца. Варта было б звярнуць увагу і на смецце ды паперкі, якія замест таго, каб пападаць у кош, невядома чаму ляжаць навокал памяшкання крамы. Пэўна, гэта сярод макранскіх жыхароў штодзённая з'ява.

Наступнае — гэта прыбіральня. Не толькі стаіць яна далёка, але яшчэ і замок на дзвярах вісіць. Думаю, што не ад зладзеяў?! І ў галаву не прыходзіць, што там можна ўкрасці.

Не-не, не так. Хтосьці тут не дбае. А хто?..

(ША)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Лясныя паляны паблізу Кракава — адзіны ў свеце запаведнік для 400 відаў матылькоў Еўропы і Усходняй Азіі. Матылькі знаходзяцца пад ахавай закона і дапамагаюць у распрацоўцы метадаў барацьбы са шкоднымі насякомымі.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Бацька завяшчаннем запісаў сваю гаспадарку сыну, памінаючы сваю другую жонку. Гаспадарка была набыта пасля яго шлюбу з другой жонкай, на прозвішча бацькі. Пасерб хоча выгнаць мачыху, якая ўжо не здольная да працы, спасылаючыся на завяшчанне. Ці прыслугоўваюць мачысе правы на гаспадарку, а калі так, то якія?

АДКАЗ: Паколькі гаспадарка была набыта ў часе супольнага жыцця мачыхі з яе мужам, ёй прыслугоўвае права да паловы гаспадаркі — незалежна ад таго, на чыё прозвішча яна куплена. Завяшчанне на карысць сына не можа пазбавіць яе гэтага права. Гаспадарка з'яўляецца супольнай уласнасцю мужа і жонкі ў роўных частках. Спадчына складае палову ўдзелу ў супольнай уласнасці гаспадаркі. Адзін з супольных уласнікаў не мае права пазбавіць другога карыстання з гаспадаркі.

Калі б не было завяшчання на карысць сына, мачыха незалежна ад свайго ўдзелу атрымала б у спадчыне палову ўдзелу свайго мужа, г.зн., яна мела б права на 3/4 гаспадаркі, а яе пасерб на 1/4. Паколькі ёсць завяшчанне, у якім яе памінулі, яна мае права як няздольная да працы атрымаць 2/3 таго, што яна атрымала б, каб завяшчання не было (т. зв. заховэк), а гэта складае 1/6 вартасці гаспадаркі.

Таму пасерб не толькі не можа выгнаць мачыху, але, калі б дайшло да падзелу спадчыны, яму прыслугоўвала б права толькі да 1/3 часткі гаспадаркі, а калі б суд прызнаў у выніку падзелу гаспадарку ўнуку, ён мусіў бы сплаціць мачысе 2/3 яе вартасці.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

## АЛІЎКА

Сёння вы можаце прачытаць некалькі даных **аб людзях, што нарадзіліся 23 верасня — у дзень асенняга перасілення.**

Аліўка бывае невялікая, часам на пагранічвы брыдоты і прыгажосці. Часта аліўцы дакучае рэўматызм, дык любіць яна сонца і вельмі перажывае, калі пазбавіць яе яго.

Аліўка спакойная. Няма ў ёй нічога агрэсіўнага. І ўсё не толькі дзякуючы раўнавазе ад прыроды, але таксама і таму, што не любіць ускладняць сабе жыцця. Умее быць таленацыйнай і, хаця мае ўласныя погляды на жыццё, ніколі не ўмешваецца ў справы іншых. Яна настолькі дыскрэтная, што можна было б нават падумаць: яна абыякавая. Але гэта няпраўда. Наадварот — калі трэба, менавіта да яе можна звярнуцца з просьбай дапамагчы. Яна адгукнецца заўсёды.

У кожных акалічнасцях яна можа мець на твары ўсмешку. Крыху таму, што лічыць за непатрэбнае без сэнсу псаваць сабе нервы. Яна сапраўды добрая і добразычлівая, але дастаткова разважная і мае добрую інтуіцыю, дык не дазваляе занадта выкарыстоўваць сябе.

Аліўка вельмі справядлівая. Усё разумее, умее зразумець стан іншага чалавека і часамі нават забываецца аб сабе. Але яна робіць гэта зусім свядома. Усе кахаюць яе, цэняць, хаця ніколі яна не робіць нічога дзеля таго толькі, каб падабацца, і часамі ў адносінах з іншымі бывае крыху пасіўная.

У каханні стараецца не быць зайздроснай. Прызнае аўтаномію партнёра, нават калі б з-за гэтага паціху цярпела. Здараецца, што робіць вялікія ўступкі (нават коштам уласнага кахання). Але гэта не азначае, што яна слабая: проста найважнейшае для яе — гэта спакой.

Аліўка бывае вельмі інтэлігентная, шмат часу прысвячае роздумам, любіць чытаць, вучыцца і развіваць зацікаўленні. Хаця не стараецца занадта, амаль заўсёды звяртае на сябе ўвагу свайго асяроддзя, часамі становіцца нават слаўная.

Аліўка належыць да людзей, якія прыносяць іншым шчасце і спакой і якія пакідаюць па сабе добры, сардэчны ўспамін.

**Астрон**



Wojciech Młynarski

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

*Заказвалі Галіна Шумская і Ірэна Кірылюк з Катлоў.*




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 23 гады. Я замужняя, маю паўтарагадовую дачушку. Пакуль што не працую, узяла трохгадовы водпуск. Муж мой дбае пра сям'ю, ён і дзіця папільнуе, прыбіраць і зварыць паможа, ды і ўсялякія справы аформіць. Сяброўкі зайздросцяць мне такога мужа. І сапраўды, не наракала б я, калі б не адно. А вось што. Не любіць ён, калі дзе што на месцы не ляжыць, як толькі заўважыць, дык адразу: чаму яно тут, а не там. Да таго яшчэ дакарае, што не дбаю пра свой выгляд, апранаю абы-што, прычоска абы-якая і так далей. Кажа: як дзяўчынаю была, дык была такая задбаная, а цяпер... Гэта праўда, але чаго ж я тут буду апранацца, ды часацца, калі ўвесь дзень у хаце з дзіцём сяджу, хіба што на панадворак з ім выйду... Ужо калі ў горад іду, то што іншае. Мне ўжо абрыдла ўсё гэта слухаць. Яшчэ ў прыклад знаёмых ставіць! Гэта яго сябра ажаніўся, двое малых дзяцей, а жонка заўсёды акуратная. Я, калі буду працаваць, таксама буду лепш апранацца, але ў хаце лічу гэта непатрэбным. А ты, „Сэрцайка“, як думаеш, хто з нас мае рацыю?

**Аня з Бельска**

**Аня!** Прабач за шчырасць, але поўнасцю згаджаюся з тваім мужам. З усяго сказанага ў пісьме відаць, што мужа ты маеш добрага, дбайнага, клапатлівага. І яго заўвагі слушныя. Гэта няпраўда, што толькі жанчына працуючая павінна дбаць пра свой выгляд, або тады, калі яна паненка. Хлопец бачыць яе чысценькую, акуратную і хоча, каб яна і жонкаю такая была. Нават найлепшага і найвярнейшага мужа можа адвярнуць ад сябе расчахраная і брудная жонка. А як яшчэ і ў хаце непарадкі... Дык і не наракай, калі муж з дому пачне выходзіць. А чысціня, парадак, прыемная жонка якраз прыцягвае мужа да гэтага сямейнага гнязда. Так што прымі, Аня, да сэрца мужавы заўвагі. Напэўна выйдзе гэта табе на карысць.

**„Сэрцайка“**



*У Заблудаве пасля дажджу.* *Фота В. Рудчыка*

## Куток практычных ведаў




### ЗАПАЛЕННЕ МАЧАВЫХ ДАРОГ

Запаленнем мачавых дарог, асабліва ў асенні і зімовы перыяд, церпіць шмат людзей. Дакучаюць ныркі, ырачныя мяднічкі, запаленне мачавога пузыра.

Запаленне нырак ці мяднічак пачынаецца звычайна болем ззаду пад рэбрамі, а мачавога пузыра — болем спераду, крыху ніжэй. Пры мочаспусканні хворы пачынае адчуваць боль або пячэнне.

Мачавая сістэма з'яўляецца вельмі складанай, і, калі не лячыць яе, то запальныя станы нават малой часткі мачавой сістэмы могуць прывесці да цяжкой хваробы арганізма. Такім чынам, пры найменшым нават падазрэнні, што захварэў у вас мачавы пузыр ці ныркі, трэба неабходна звярнуцца да доктара. Доктар адразу накіруе хворага на даследаванне мачы. Каб у лабараторыі змаглі атрымаць сапраўдны вобраз хваробы, мачу, прызначаную для лабараторнага даследавання, трэба спусціць у чыстую бутэльку. І трэба заўсёды памятаць, што перад гэтым неабходна дакладна вымыць моча-палавыя органы.

Запаленне мачавых дарог, акрамя сімптомаў, аб якіх мы ўжо сказалі, часта выклікае павышаную тэмпературу цела, агульнае аслабленне, дрэннае самаадчуванне, а часамі нават галаўныя болі, моташнасць, пухліну і павышаны ціск крыві. У такім стане здароўя хворага неабходна палажыць у ложак і выклікаць доктара дахаты.

Некаторыя не ведаюць, якую дыету трэба прымяняць пры гэтай хваробе. Думаюць, што трэба есці ўсё без солі. Што датычыцца дыеты, то яе павінен прыпісаць доктар, які даследаваў хворага, паколькі залежыць яна ад таго, як праходзіць хвароба. Наогул, сапраўды мы прывыклі лічыць, што пры ўсіх такога роду хваробах неабходна пазбягаць солі. Тым часам у многіх выпадках гэта зусім не з'яўляецца неабходным. Вельмі важна, аднак, прытрымлівацца прыпісанай доктарам колькасці вадкасці, якую ў некаторых выпадках трэба абмежаваць, у іншых жа — наадварот, трэба піць як найбольш. Калі хвароба пачынаецца вельмі востра, то трэба, напрыклад, абмежаваць колькасць бялка, але бывае і так, што доктар прыпіша якраз большую колькасць гэтага рэчыва. Такім чынам, трэба дакладна прытрымлівацца ўказанняў доктара.

Агульна, можна толькі сказаць, што ў перыяд, калі ў хворага павышаная тэмпература, страва павінна быць яму пададзена ў невялікіх порцыях, павінна быць лёгкастраўная, нятлустая, са свежым сырым маслам. Піць добра было б кампоты і фруктовыя сокі.

**Эскулап**




### МІНА НА БОРЦЕ

Пасля вячэры пасажыры слухалі музыку і спявалі хорам пад акардэон камандзіра. Прыглушаныя гукі музыкі даносіліся да кают экіпажа, дзе спаў Эрых Шпель. Яму трэба было выйсці на змену ў поўнач. Але камісар Нуненмахер разбудзіў яго на гадзіну раней. Шпелю сніліся рукі мастака, знявечаныя ў засценках гестапа. Эрых бачыў яго, калі той пасля вызвалення вярнуўся ў дом сваёй былой жонкі.

Па паходжанню Эрых Шпель быў селянінам. Ён умеў спрытна карыстацца іголкай і швейнай машынкай, і гэта ўменне прывяло яго ў дырыжаблебудаўніцтва. Потым яму прапанавалі стаць наладчыкам у саставе экіпажа „Гіндэнбург“. Шпель згадзіўся, таму што хацеў адпомсціць за рукі мастака. Яму хацелася знішчыць гэту машыну, якую пастаянна расхвальвала радыё, і прымусіць яго хоць раз сказаць праўду.

Яго міна ляжала на дне газавай камеры № 4. Міна была надзвычай простая, але надзейная. У мяшочку знаходзіліся 4 сухія батарэі, якія сілкавалі дэтанатар, што працаваў па прынцыпу магніевай лямпы ўспышкі, якая, у сваю чаргу, падпальвала фосфар (ён таксама знаходзіўся там). Міна была забяспечана гадзіннікавым механізмам. Каб прывесці міну ў дзеянне, дастаткова было павярнуць ручку гадзіннікавага механізма. Для гэтага трэба было разрэзаць нажом складкі камеры, да якой лёгка дабрацца па лесвіцы, што праходзіла з сярэдняга калідора. К канцу падарожжа частка вадароду заўсёды выпускалася, і ў складках немагчыма было ўбачыць разрэз.

Шпель не збіраўся нікога забіваць, ён разлічваў пачакаць, пакуль дырыжабль зробіць пасадку, пасля чаго меў намер уключыць гадзіннікавы механізм і спакойна пайсці. Узляцець у паветра павінен быў толькі сімвал „рэйха“...

На досвітку 6 мая „Гіндэнбург“ рухаўся ў напрамку да Бастона. У 18 гадзін ён павінен быў дасягнуць аэрапорта Лейкхэрст. Пасля абеду над востравам Лонг-Айленд пасажыры пачалі рыхтавацца да высадкі. Яны складвалі чамаданы, рыхтавалі дакументы. Капітан Прус сказаў, што „Гіндэнбург“ павінен зрабіць разгрузку і пагрузку за рэкордна кароткі час, каб апоўначы адбыць у Германію.

Наперадзе паказаўся Нью-Йорк, падобны са сваімі небаскробамі на дошку, утыканую цвікамі. Масты і пуцеправоды выглядалі цацачнымі, а статуя Свабоды здавалася зробленай з фарфору. Капітан накіраваў дырыжабль да Таймс-сквера, праляцеў над гледачамі, што сабраліся на Брадвеі. Яго суправаджаў эскорт самалётаў. Затым „Гіндэнбург“ перасек Гудзон і ўзяў курс на поўдзень — у Нью-Джэрсі.

А пятай гадзіне дырыжабль дасягнуў аэрапорта Лейкхэрст. Капітан скінуў вымпел з пісьмом, у якім гаварылася: „Іду ад буры“. Хоць над „Гіндэнбургам яшчэ свяціла сонца, неба на захадзе зацягвалася хмарамі, успыхвалі маланкі, і былі чутны аддаленыя раскаты грому.

Капітан накіраваў дырыжабль на поўдзень да Атлантык-Сіці. Чай быў пададзены раней, чым звычайна. Йозеф Шпа прыкметна нерваваўся, хадзіў з месца на месца, а ад яго ні на крок не адставаў лейтэнант Хінкельбайн.

У 18 гадзін Эрых Шпель здаў вахту. Перш чым пакінуць пост, ён разрэзаў парусіну ў газавым мяшку № 4, устанавіў гадзіннікавы механізм і прыкрыў разрэз складкамі камеры. Праз 2 гадзіны фосфар павінен быў прапаліць парусіну, у выніку чаго ў мяшок трапіла б паветра. Вадарод і кісларод утвараюць выбуховую сумесь і...

Афіцэр СД Кнор пачаў звычайны агляд. Пакратаўшы рукой камеру № 4, ён заўважыў, што ціск у ёй знізіўся. Ён яшчэ раз агледзеў, а калі сустрэўся са старшым камісарам Кубісам, то паведаміў яму, што ў адным з мяшкоў знізіўся ціск і што таму вылет апоўначы назад немагчымы з-за неабходнасці рамонту. У 18.22 прыйшло паведамленне з Лейкхэрста: „Рэкамендую прызямліцца цяпер“. У 18.44 быў адпраўлены адказ: „Узяў курс на Лейкхэрст“.

З гандолы ўжо была бачна паўднёвая частка ўзлётнага поля. Неба на захадзе ачышчалася ад хмар, але над Лейкхэрстам яшчэ імжэў дождж. Дырыжабль набліжаўся да поля са скорасцю 73 вузлы на вышыні 200 метраў. Карабель перасек поле над пасадачным кругам і паляцеў над двайной дарожкай, якая вяла ў ангар. Вароты ў яго былі адчынены.

Па доўгай дузе „Гіндэнбург“ накіраваўся на захад ад аэрапорта, а затым павярнуў на поўдзень, каб ісці на пасадку. У 19.11 з камер пачалі выпускаць газ, і вышыня зменшылася да 180 метраў. Затым, згодна з правіламі, экіпаж пачаў выключаць маторы, адзін за адным. Эрых Шпель знаходзіўся на сваім пасту ля галоўнага каната, выглядаючы з дырыжабля праз ілюмінатары. „Гіндэнбург“, нарэшце, ішоў на пасадку, але Эрых ведаў, што часу заставалася вельмі мала.

У 19.19 Прус загадаў: „Поўны назад!“. „Гіндэнбург“ падышоў да прычальнай мачты. Там, на вышыні 60 метраў, заглушылі маторы. У 19.21 былі выкінуты канаты.

**(Працяг будзе.)**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Ёсць яшчэ ў нас смельчакі

За маім столікам сядзеў нецвярозы тып і ганяў відэльцам па апусцелай талерцы марынаваную гарошынку. Відаць, апошняя гарошынка, якая ўваходзіла ў складаны гарнір, была з норавам і вырашыла паздзекавацца з майго п'янага суседа: як той ні стараўся ўдзяўбнуць яе, яна выслізгвала...

— Вы вось тут крыху выпілі, таварыш, а недзе, мусіць, дзеці, жонка, — сказаў я дакорліва. У думках сказаў.

Хутка гэтаму балбесу надакучыла гуляць у імправізаваны більярд. Ён кінуў відэлец на стол, зграб бедную гарошыну двума пальцамі і кінуў у рот.

— Як вам не сорамна так паводзіць сябе ў грамадскім месцы! — амаль крыкнуў я. У думках, праўда.

Сусед няўпэўнена падняўся і яго правая і левая нага спачатку пайшлі кожная ў свой бок, але потым ногі, неяк пагадзіўшыся, даставілі гаспадара да акварыума, у якім плавалі стракатыя рыбінкі з пеўневымі хвастамі.

Крыху пахіснуўшыся, п'яны ўсунуў у акварыум руку і пачаў лавіць рыбак.

— Якое хамства! Ды вас трэба адвесці, грамадзянін, у выцвярэзнік! — сказаў я яму моцна, па-мужчынску. У думках, вядома.

Нацешыўшыся, п'яны падышоў да майго століка і, не спяшаючыся, выцер абедзве рукі аб мой любімы гальштук. Такая фамільярнасць мяне не на жарт абразіла.

— Вы мне, грамадзянін, прабачце, але вашы паводзіны пераходзяць рамкі нармальнага грамадзяніна, — крыкнуў я. У думках крыкнуў.

У гэты час нейкі малады чалавек узяў гэтага нахабніка ў ахапку, вынес за дзверы рэстарана і выштурхнуў на вуліцу...

— Правільна, малады чалавек, — сказаў я. — З такімі нахабнікамі няма чаго валэндацца.

Сказаў уголас так, што ўсе пачулі.

**Віктар Шаўчэнка**

## НІЎКА

### КАМАР

*Для піскліўца-Камара*
*Гуз на лобе, і той гара,*
*Ну дык ён таму гудзе,*
*Як вялікі, на дудзе.*
*Лёгка браць яму гару,*
*Лёгка лётаць Камару,*
*Лёгка кроў смактаць чужую,*
*Калі спіць хто і не чуе.*
*Але ў тонкай павуціне*
*Ён часамі марна гіне.*
*Перад смерцю, у бядзе,*
*Ён пішчыць, а не гудзе.*

**С. Шушкевіч**

### ЗРАЗУМЕЛА

— Марына ніколі ні аб кім не гаворыць дрэнна.

— Гэта зусім зразумела, таму што яна заўсёды гаворыць толькі аб сабе.

### ВЕДАЎ

— Вам добра плаціць, — сказаў загадчык аддзела кадраў новаму супрацоўніку, — але за гэта мы маем права разлічваць на вашу добрую працу!

— Я так і ведаў, што тут будзе які-небудзь падман!

## ГУМАР З

### ГАВАРЫЦЕ, ЛЮДЗІ!

Аднойчы гаварыў пан да ўсёй грамады:

— А хто пойдзе да мяне абедаць?

— Я, — кажа адзін цыган, апярэджваючы ўсіх.

— А хто пойдзе да мяне і на вячэру?

— Дык я ж! — зноў крычыць цыган.

— А хто пойдзе да мяне касіць? — пытае пан.

— Ну, людзі добрыя, — кажа цыган, — гаварыце вы ўжо, а то што ж, усё я ды я. Нават сорамна ўжо.

...Хто табе даваў слова?! — спытаў ён сваё сумленне.

...Такі важны, што не скажаш аб ім: спіць. Хочацца сказаць: заняты сном.

### СУПАКОІЎ

Пацыент, заклапочаны сваёй хваробай, задае лекару пытанне:

— Скажыце, доктар, вы ўпэўнены, што я выздараўлю? Я чуў, што часам лекары ставяць няправільны дыягноз. Лечаць, напрыклад, ад запалення лёгкіх пацыентаў, якія ўміраюць потым ад тыфу.

— Гэта выпадак не з маёй практыкі. Калі ўжо я лячу каго-небудзь ад запалення лёгкіх, ён і памірае ад запалення лёгкіх.

### ХАЦЕЎ ПРАВУЧЫЦЬ

Бацька (знімаючы рамень): — Чакай, шыбенік, я цябе навучу курыць!

Сын: — Ой, не трэба! Я ўжо ўмею!

### ПАРАІЎ

Аўтар пытае вядомага крытыка:

— Як вы думаеце, ці не варта ўнесці ў п'есу якія-небудзь змены?

— Так, магчыма, мой дружа. Я б вам параіў, каб ваш герой не павесіўся, а застрэліўся.

— Чаму?

— Гук выстралу разбудзіць гледачоў.

### НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ

Тэхаскі мільянер прыехаў на славуты горны курорт. Нізка кланяючыся, дырэктар атэля гаворыць яму:

— На жаль, сэр, цяпер вельмі мала снегу. Схілы амаль зусім голыя. Я проста ў роспачы...

— Не мае значэння, — супакоіў яго тэхасец. — Снег едзе з маім багажом.

### НЯМА ЧАГО КРЫЧАЦЬ

— Агуш! — крычыць Кастусь, праганяючы суседскіх курэй з свайго гароду. — Каб вы паздыхалі!

А сусед пачуў ды й кажа:

— Ну чаго ты раскрычаўся?! А як твае куры ў маім хляве нясуцца, дык я ж нічога не кажу.

### АБОЕ РАБОЕ

Двое мужчын ішлі па вуліцы. Раптам адзін схапіў другога за руку.

— Хутка адсюль!

Яны ўбеглі ў пад'езд.

— Што здарылася?

— На другім баку вуліцы стаіць мая жонка і размаўляе з маёй каханкай.

Другі паглядзеў і сказаў:

— Наадварот, гэта мая жонка размаўляе з маёй каханкай.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Яўгенія Крупіцкага з Давідавіч і Галіны Ювзюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## MOTYLEM JESTEM

**słowa: Andrzej Tylczyński**
**muzyka: Andrzej Korzyński**
**śpiewa: Irena Jarocka**

La, la, — la, la, la...
Motylem jestem

motylem jestem,
pofrunę, gdzie
nie byłam jeszcze,
zatrzymaj, bo
nie wrócę więcej...
Motylem jestem
motylem jestem,
dzień minął już
a pragnę jeszcze
siąść tam i tu —
motylem jestem!

Jak motyle, jak motyle
wzlećmy jeszcze choć na chwilę
w górę,
aż pod niebo,
tam gdzie czeka nas
słońca blask...

Wzlećmy raz pod niebo jeszcze,
nie spotkamy się już więcej
nigdy —
kolorowe sny
rozwieje wiatr,
zatrze czas...

La, la — la, la, la...

Motylem jestem,
motylem jestem,
dzień minął już
a pragnę jeszcze
siąść tam i tu —
motylem jestem!..

Jak motyle, jak motyle
wzlećmy jeszcze choć na chwilę
w górę
aż pod niebo
tam, gdzie czeka nas
słońca blask...

Wzlećmy raz pod niebo jeszcze —
nie spotkamy się już więcej
nigdy...
Kolorowe sny
rozwieje wiatr,
zatrze czas...

La, la, la, la, la, la, la, la,
La, la, la, la, la, la, la, la,
la, la,

kolorowe sny
rozwieje witr,
zatrze czas...

## Курёзы

### ШТО ДОБРА, ТО ДОБРА...

Руская „Калінка" карыстаецца ў заходніх немцаў незвычайнай папулярнасцю. Яна зноў і зноў гучыць па радыё і тэлебачанню, на рэйнскім карнавале і на мюнхенскіх асенніх гуляннях. А нядаўна „Калінка" атрымала „асаблівыя ваенныя прывілеі": яна ўключана ў афіцыйны спеўнік бундэсвера, выпушчаны міністэрствам абароны ФРГ.

Што добра, то добра. Тым больш, што „Калінка" рэкамендавана міністэрствам не толькі як страявая песня, але і „для выступленняў салдацкіх хораў і для спявання на прывалах".

### БІЗНЕС НА БЯЗГЛУЗДЗІЦЫ

Амерыканскія дзялкі, выкарыстоўваючы пачуццё няўпэўненасці грамадзян у заўтрашнім дні, робяць бізнес на іх страху перад будучым. Сведчаннем таму з'яўляецца з'яўленне ў ЗША так званых клубаў „чорнага дня", якія абяцаюць збаўленне ад усіх будучых бед.

Адзін з такіх клубаў адкрыў нейкі Макс Холіс. Уступны ўзнос у яго клуб складае 15 тысяч долараў. З надыходам „чорнага дня" Холіс „гарантуе" поўную ізаляванасць членаў свайго клуба, а нарыхтаваныя ў запас прадукты забяспечаць ім „незалежнасць ад знешняга свету".

Спрытны дзялок разлічвае прыцягнуць у лона сваёй установы сотні заможных асабліва баязлівых багачоў, і сума ўзносаў у яго клуб хутка дасягне 4 мільёнаў долараў.

## Смяюцца з намі

*Часам сустракаеш такіх людзей, што пачынаеш адчуваць сябе чалавекам.*

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024